*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

Круглае Шклоў Бялынічы

# Рэгіён

СНЕЖАНЬ 2015 г. № 9 (59)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Реальная зарплата за 10 месяцев 2015 в Могилевской области уменьшилась на 4,5% по сравнению с прошлогодним периодом.**

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-октябре 2015 года составила 5 771,1 тыс. рублей. В том числе в октябре – 5 873,3 тыс. рублей, и уменьшилась по сравнению с сентябрем 2015 г. на 0,6%, или на 33,6 тыс.рублей. Реальная зарплата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги, в январе-октябре текущего года по сравнению с аналогичным периодом прошлого, уменьшилась на 4,5%, в октябре по сравнению с сентябрем 2015 г. – на 1,4 %, сообщают могилёвские статистики.

**За истекший период этого года на территории Шкловского района** зарегистрировано 11 дорожно-транспортных происшествий, в которых 5 человек погибло и 11 травмированы. С участием пешеходов произошло 5 ДТП, в результате которых два человека погибло и трем – причинены телесные повреждения различной степени тяжести.

**В Шклове возобновилось строительство Ледового дворца.** Из-за проблем с финансированием работы были заморожены почти на полтора года. Но по поручению президента строители получили «зеленый свет» — предстоит освоить 150 млрд рублей. А это — ледовая арена с трибунами на триста с лишним зрителей, тренажерный и хореографический залы.Работы планируется завершить к июлю 2016 года.

## У ЧАКАННІ ЧАРГОВАГА КРЭДЫТУ

**Напачатку мінулага тыдня адбылася пазачарговая сесія Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў, пра якую чамусьці вельмі мала напісалі дзяржаўныя СМІ. Між тым дэпутаты разглядалі звышактуальнае для насельніцтва рэгіёна пытанне аб карэктыроўцы бюджэту Магілёўскай вобласці на 2015 год.**




Неабходнасць пераглядy бюджэту вобласці была выклікана тым, што яна недаатрымала значную частку з запланаваных у гэтым годзе даходаў на кругленькую суму ў памеры каля 360 мільярдаў рублёў. Таму дэпутаты вымушаны былі рэзка знізіць бюджэтныя выдаткі, бо грошай на іх проста няма. У выніку ў Магілёўскай вобласці зараз значна скарачаюцца расходы на будаўніцтва, падтрымку сельскай гаспадаркі, адукацыю, сацыяльную сферу і г. д.

Па інфармацыі журналістаў газеты "Рэгіён", на сённяшні дзень няма ніякай яснасці і наконт таго, колькі грошай будзе запланавана ў даходнай і расходнай частцы бюджэту Магілёўскай вобласці на наступны 2016 год. Эканамічныя паказчыкі вобласці стабільна зніжаюцца, дрэнная сітуацыя зараз складваецца практычна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, таму на нейкія значныя даходы бюджэту разлічваць не даводзіцца. Ну а калі няма даходаў, то і нейкія расходы планаваць вельмі цяжка, гэта вы можаце ўявіць па ўласнаму сямейнаму бюджэту. Таму нашы абласныя чыноўнікі знаходзяцца ў пэўнай прастрацыі і пакуль чакаюць, якія ж лічбы ім "спусцяць" зверху.

У краіне сітуацыя таксама не нашмат лепшая, калі не сказаць больш. Фактычна Беларусь апанаваў крызіс, але нашы ўлады

*(Заканчэнне на стар. 2)*

## У ЧАКАННІ ЧАРГОВАГА КРЭДЫТУ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

аддаюць перавагу пра гэта не казаць, толькі падвышаюць кошты літаральна на ўсё. Так, з 1 снежня зноў падвысіліся кошты на паслугі ЖКГ, тарыфы на тэлефонную сувязь і інтэрнэт, кошты на цыгарэты. Каб неяк утрымаць сітуацыю пад кантролем, усе іх імкненні зараз скіраваныя на тое, каб нейкім чынам атрымаць чарговы крэдыт. Калі гэтага зрабіць не ўдасца, то жыццёвы ўзровень насельніцтва краіны апусціцца яшчэ ніжэй, многія людзі проста апынуцца за рысай беднасці. У Расіі грашыма асабліва не разжывешся, бо зараз суседняя краіна ўвязалася ў чарговую вайну. Таму крэдыт яны дадуць толькі пры выкананні некаторых умоў, напрыклад, “падараваўшы” нам дадаткова сваю вайсковую базу дзе-небудзь пад Бабруйскам.

Даводзіцца ў чарговы раз прасіць грошы ў “праклятых буржуінаў” з Міжнароднага валютнага фонду. Буржуіны грошы даць гатовы, аднак, нягоднікі, хочуць, каб ім іх у рэшце-рэшт павярнулі пасля сканчэння тэрміну крэдытавання. Таму, svалачугі, настойваюць, каб грошы пасля атрымання крэдыту выдаткоўваліся не на новыя палацы і аграгарадкі, як любяць рабіць нашы мудрыя кіраўнікі, а каб нешта рабілася для рэфармавання эканомікі і прадпрыемстваў. Нахабнікі, канешне, але трэба іх неяк угаворваць, бо нашу “цуда-тэхніку” ужо купляць не хочуць нават самі беларусы, не кажучы ўжо пра іншых. Самі выдатна ведаеце, наколькі “якасныя” зараз нашы тавары і тэхніка.

Таму Аляксандр Рыгоравіч на нарадзе 1 снежня і вымушаны быў сказаць, што фінансаванне МВФ — гэта добры крэдыт, з добрым аб’ёмам рэсурсаў і добрым працэнтам. “Ніхто нам, у тым ліку і расіяне, пад такія працэнты крэдытаў не дае. Нам гэта выгадна”, — цытуе словы кіраўніка дзяржавы БЕЛТА.




Зразумела, што крэдыт добры, але ж спецыялісты МВФ, нягоднікі, будуць кантраляваць асваенне выдаткаваных сродкаў, нават ужо прапаноўваюць плаціць рэальныя грошы ў якасці дапамогі па беспрацоўю. І гэта пасля таго, як мы першымі ў свеце дадумаліся браць з беспрацоўных дармаедаў падаткі!

Таксама буржуіны рэкамендуюць падвысіць у Беларусі пенсійны ўзрост, бо падлічылі, што калі гэта не зрабіць, ужо ў хуткім часе Пенсійны фонд не зможа своечасова выпочваць грошы людзям, якія ўжо выйшлі на пенсію. Гады, канешне, але не яны кіравалі краінай апошнія 21 год і не яны яе давялі да такога стану.

А тут яшчэ банкіры з братняга Еўразійскага банка развіцця настойліва раяць нашым чыноўнікам падвысіць расходы насельніцтва на ЖКГ. Думаю, што чыноўнікі іх паслухаюцца, куды ж ім падзецца, бо таксама набралі ў гэтым банку крэдытаў для краіны па самыя вушы.

Так што, паважаныя землякі, нягледзячы на прыгожыя словы высокіх кіраўнікоў пра “росквіт” і “стабільнасць”, наперадзе нас чакаюць вельмі цяжкія часы.

***Сяргей Семяновіч***

## Почти на 7% снизились реальные располагаемые денежные доходы населения Могилевской области

Реальные располагаемые денежные доходы населения Республики Беларусь в январе-сентябре 2015 г. составили 94,6% к уровню аналогичного периода прошлого года.

По данному показателю Могилевщина занимает 4 место среди регионов страны и Минска, после столицы, Минской и Гродненской областей. По сравнению с прошлым годом реальные располагаемые денежные доходы жителей Приднепровья сократились на 6,6%.

## ЮРЫЙ НЕСЦЯРЭНКА ЗНОЎ ВЫЗНАЧЫЎСЯ

Аўтар і выканаўца Вольга Акуліч з Мінска разам з бялыніцкім музыкантам Юрыем Несцярэнкам выйшлі спачатку ў паўфінал, а потым ў фінал аўтарытэтнага еўрапейскага конкурса OPPA (Варшава, 14-15 лістапада 2015). Вольга апынулася ў ліку пяці фіналістаў, а Юрый быў прызнаны лепшым інструменталістам фестываля.

Фестываль мае даўнія традыцыі, праводзіцца з 1978 года (Festiwal ogolnopolski piosenki autorskiej), у гэтым годзе стаў 33-ім па ліку. У ім стала ўдзельнічаюць выканаўцы з Польшы, Чэхіі, Латвіі, Эстоніі, Літвы, Расіі, Беларусі, Ірландыі ды іншых краін.

Вольга і Юрый апошнім часам стала супрацоўнічаюць: у Беларусі бралі ўдзел разам у розных канцэртах і фестывалях (Магілёў, Маладэчна, фестываль "Бардрыбалка", неаднаразова ў Мінску (зусім нядаўна -- 26 лістапада, адбылося выступленне ў музеі Янкі Купалы). У Варшаве ў дуэце выступалі не першы раз.

Сумесныя творы выдаваліся на дыску Вольгі акуліч "Далоні" (2015) і на альбоме Юрыя Несцярэнкі "Свята на дваіх" (прэзэнтаваны 26 чэрвеня 2015 года на партале Tuzin.FM)

## ПЕНСІЯНЕРКА З-ПАД БЯЛЫНІЧАЎ СПАЛІЛА ДВУХ ВЯСКОЎЦАЎ НА ГЛЕБЕ РЭЎНАСЦІ

**Пракуратурай Магілёўскай вобласці накіравана ў абласны суд крымінальная справа 59-гадовай жыхаркі вёскі Лічынка Бялыніцкага раёна, якая ўчыніла забойства двух аднавяскоўцаў пры абцяжарваючых акалічнасцях і знішчэнне чужой маёмасці агульнанебяспечным спосабам, паведамляе БелаПАН.**

Як паведаміў намеснік начальніка аддзела пракуратуры Магілёўскай вобласці Дзмітрый Шарамет, падчас папярэдняга расследавання ўстаноўлена, што абвінавачваная ў ноч з 4 на 5 чэрвеня гэтага года, будучы ў стане алкагольнага ап'янення, даведаўшыся, што яе 46-гадовы сужыцель знаходзіцца ў гасцях у адзінокай 60-гадовай аднавяскоўкі, на глебе рэўнасці вырашыла забіць іх.

Пенсіянерка паклала пад уваходныя дзверы сваёй саперніцы палавік з матэрыі і палімерны мяшок, якія падпаліла. Затым, упэўніўшыся, што пачаўся пажар, з месца здарэння ўцякла. У выніку пажару мужчына і жанчына памерлі на месцы здарэння ад атручэння вокісам вугляроду. Агнём быў поўнасцю знішчаны дом, што належаў сыну пацярпелай.

Дзеянні абвінавачванай органам папярэдняга следства кваліфікаваныя на падставе п. 1, 5, 6 ч. 2 арт. 139 КК (наўмыснае супрацьпраўнае пазбаўленне жыцця (забойства) дзвюх асоб, учыненае агульнанебяспечным спосабам, з асаблівай жорсткасцю), а таксама на падставе ч. 3 арт. 218 КК (наўмыснае знішчэнне і пашкоджанне маёмасці, учыненае агульнанебяспечным спосабам, што мела вынікам нанясенне ўрону ў асабліва буйным памеры).

За ўчыненае крымінальным заканадаўствам прадугледжана максімальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 25 гадоў.

Папярэдняе расследаванне па гэтай справе ажыццяўлялася УСК па Магілёўскай вобласці.

## ЧЕТВЕРО ЖИТЕЛЕЙ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙОНА ПОДОЗРЕВАЮТСЯ В СЕРИИ КРАЖ ИЗ МАШИН В МОГИЛЕВЕ

**Могилевским межрайонным отделом Следственного комитета расследуется уголовное дело в отношении четверых жителей Белыничского района, обвиняемых в совершении серии краж из автомобилей в Могилеве. Об этом сообщила Mogilevnews.by официальный представитель УСК по Могилевской области Оксана Соленюк.**



Следствием установлено, что обвиняемые вскрывали автомобили и похищали из салона имущество, снимали автомобильные аксессуары. Ими было совершено порядка 14 краж, сумма похищенного составила более Br100 млн. Во время совершения очередной кражи злоумышленников задержали сотрудники Ленинского (г. Могилева) отдела Департамента охраны. Часть похищенных вещей обнаружили и изъяли в ходе обысков по их месту жительства.

Проводится комплекс следственных действий для установления причастности задержанных к аналогичным преступлениям в других регионах страны. Их действия квалифицированы как кража, совершенная группой лиц. Они заключены под стражу.

## ПРОРАБ КРУГЛЯНСКОЙ ПМК-266 ОСУЖДЕН НА ЧЕТЫРЕ ГОДА, ТАКЖЕ КОНФИСКОВАН ДОМ МАТЕРИ

Приговором суда Круглянского района работник «Круглянской ПМК-266» признан виновным в совершении преступлений, предусмотренных ч.3 ст.424 УК (злоупотребление властью или служебными полномочиями) и ч.3 ст.210 УК (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями). Ему назначено наказание в виде лишения свободы сроком на 4 года с конфискацией имущества, с лишением права занимать должности, связанные с выполнением организационно-распорядительных и административно-хозяйственных обязанностей, сроком на 5 лет. Приговор суда вступил в законную силу, сообщается на официальном сайте Генпрокуратуры Республики Беларусь.

Установлено, что осужденный, работая в должности производителя работ ГУКДСП «Круглянская ПМК-266», неоднократно использовал труд подчиненных ему работников для выполнения строительно-отделочных и подсобных работ при строительстве домовладения, принадлежащего его матери. В табели рабочего времени работников он вносил заведомо ложные сведения о фактически отработанном ими времени на различных объектах предприятия, в результате чего работникам начислена и выплачена по месту работы заработная плата.

Названное домовладение осужденный ранее подарил матери, чтобы избежать возможной конфискации имущества.

Во исполнение приговора в части конфискации имущества прокурором Круглянского района предъявлен иск об установлении факта ничтожности сделки (договора дарения домовладения) и применении последствий ее недействительности.

Исковые требования прокурора судом полностью удовлетворены, соощает Mogilevnews.by.

# КАТАСТРАФІЧНАЯ ТЭНДЭНЦЫЯ: БЕЛАРУСЬ ЗНІКАЕ ЦЭЛЫМІ РАЁНАМІ

**Вытворчыя прадпрыемствы Круглянскага раёну Магілёўшчыны павальна зачыняюцца, а жыхары масава выязджаюць на заробкі ў Расею. Пакуль мясцовыя ўлады заплюшчваюць вочы на праблемы і святкуюць Дажынкі, неабыякавыя грамадзяне аб'ядналіся ў ініцыятыву дзеля выратавання рэгіёну.**



«Хлебозавод закрылся, маслозавод закрылся, льнозавод закрылся – ну и что здесь делать?» — кажа мужчына.

Нястача працоўных месцаў і як вынік – сталае скарачэнне насельніцтва. Круглянскі раён на Магілёўшчыне перажывае крызіс, які пагражае знікненнем гэтай тэрытарыяльнай адзінкі з мапы Беларусі. Уратаваць рэгіён ад расфармавання спрабуе незалежная грамадская ініцыятыва.

«Стоит вопрос что делать дальше с этой территорией. По сути дела необходимо расформировать Круглянский район и присоединять к другим районам. Естественно это резко ухудшит ситуацию для местного населения», — распавядае Мётр Мігурскі, аўтар ініцыятывы выратавання Кругляншчыны.

Пасля закрыцця бальшыні буйных вытворчасцяў эканоміка тут трымаецца на адным прадпрыемстве – ПМК-266. Ды на дзяржаўных датацыях, якія сягаюць амаль 70-ці адсоткаў.

«Сярэдні заробак вельмі-вельмі далёкі ад сярэдняга па РБ і колькасць гэтак званых дармаедаў пастаянна нарастае», — заўважае Барыс Вырвіч, журналіст з суседняга Бялыніцкага раёна.

Па выніках даследавання праблемнага рэгіёну актывісты складуць «Стратэгію развіцця» Кругляншчыны да 2030-га года.

Ужо па папярэдніх ацэнках яны зазначаюць, што абапірацца трэба на прыватнікаў і фермераў. Рэалізаваць праграму плануюць у супрацы з мясцовымі ўладамі, аднак, як адзначае Мігурскі, менавіта некампетэнтнае раённае кіраўніцтва і прывяло да крызісу.

«Председатели райисполкомов часто меняются, то есть нет ответственности за будущее района и Круглянский район рассматривается как трамплин на иную должность», — заўважае Пётр Мігурскі, кандыдат эканамічных навук.

Для ацэнкі сітуацыі ў рэгіёне актывісты праводзяць анкетаванне мясцовых жыхароў у найбольш балючых пытаннях. Людзі крызіс у рэгіёне адчуваюць, але наракаць не спяшаюцца:

«Экономика, сейчас тяжелое время, люди со всем соглашаются, значит так надо, раз так происходит, значит так надо»

« — Я только за Лукашенку, за нашего президента!

— Мы не про президента, а есть ли работа здесь?

— Нету никакой, никакой работы совершенно!»

«Ну якая гэта жизнь? скоро вообще по миру пойдешь, если б не свое хозяйство — усё».

Сябры грамадскай ініцыятывы адзначаюць, што ў заняпадзе не толькі Круглянскі раён, але і ўся Магілёўшчына. І ўпэўненыя, што рэгіёны патрабуюць адмысловай эканамічнай палітыкі.

«Вось такім чынам мы імкнемся заставіць улады ўсё ж такі шавяліцца, і я хачу яшчэ адзначыць, што маючы нацыянальную стратэгію ўстойлівага развіцця краіны да 30-га года неабходна мець стратэгію для кожнага рэгіёна», — тлумачыць палік Рыгор Кастусёў.

Рэальнага паляпшэння Кругляншчыне не прынеслі і сёлетнія "Дажынкі" – дэкарацыя, за якой нізкія заробкі, беспрацоўе і скарачэнне насельніцтва засталіся рэальнасцю.

***Таццяна Рэут, "Белсат"***

## КАМЕНТАРЫЙ "РЭГІЁНА"

Як стала вядома журналістам "Рэгіёна", шмат хто з жыхароў Круглянскага раёна пакрыўдзіўся на карэспандэнтаў тэлеканала "Белсат" за неаб'ектыўны, на іх думку, матэрыя аб стане спраў у раёне. Ну а журналіст газеты "Магілёўскія ведамасці" В. Кубека наогул змясціў на яе старонках артыкул "Кривая "социология", у якім абрынуўся са знішчальнай крытыкай на здымачную групу "у складзе "вучоных", лідараў БНФ, і тэлевізіёншчыкаў", якая пабывала ў Круглянскім раёне. Паважаны калега нават абазваў Рыгора Кастусёва "пакрытым цвіллю" палітыкам, ну і таксама распавёў пра тое, як дынамічна і паспяхова развіваецца Магілёўская вобласць і Круглянскі раён у апошнія гады.

Карацей, "клевешчут" праклятыя найміты злосных буржуінаў. Што ж, у кожнага могуць быць уласныя меркаванні, таму няхай яны застануцца на сумленні В. Кубекі. Ну а зараз проста прывяду некаторыя канкрэтныя факты, якія агучвалі не "паклёпнікі" - незалежныя журналісты, а самыя што ні на ёсць "чэсныя" беларускія чыноўнікі.

Пра сапраўдны стан спраў у эканоміцы Магілёўскай вобласці вы можаце прачытаць у іншых змешчаных у гэтым нумары "Рэгіёна" матэрыялах, ды тут шмат і казаць не трэба – рэальныя заробкі ў людзей падаюць, выплочваюцца несвоечасова, стан прамысловасці і сельскай гаспадаркі пастаянна пагаршаецца, няма адкуль браць грошы на сацыяльныя праграмы і выплаты. Ну а пра Крулянскі раён усё ж напішу асобна.

Паведамлю таварышу В. Кубека і жыхарам Кругляншчыны,

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# ПРА КАМПЕНСАЦЫЮ «САВЕЦКІХ» УКЛАДАЎ МОЖНА ЗАБЫЦЦА

**На мінулым тыдні да журналістаў "Рэгіёна" звярнулася сталая чытачка нашай газеты. Жанчына папрасіла, каб газета зноў узняла пытанне і змясціла на сваіх старонках артыкул аб кампенсацыі савецкіх банкаўскіх укладаў.**

Як вядома, у далёкім ужо 1991 годзе ўрад Беларусі прыняў на сябе абавязкі савецкіх укладаў у памеры 16,4 мільярдаў рублёў. Яшчэ тых поўнавартасных рублёў, якія людзі адкладвалі з сваіх невялікіх заробкаў, каб пасля забяспечыць сабе годную старасць, альбо дапамагчы дзецям і ўнукам напачатку іх самастойнага жыцця. Урад нават прыняў рашэнне аб стварэнні адмысловага фонд для пакрыцця стратаў укладчыкаў. Кандыдат на пасаду прэзідэнта, а пасля ўжо і першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, абяцаў, што саветскія ўклады грамадзян Беларусі будуць абавязкова кампенсаваны.

Аднак, на жаль, усе гэтыя абяцанкі аказаліся проста пустымі словамі. Згодна ўказа прэзідэнта аб кампенсацыі ўкладаў ад 1998 года, некаторыя з укладчыкаў змаглі атрымаць у якасці кампенсацыі нейкія нязначныя сумы грошай, якія, дзякуючы інфляцыі, у хуткім часе сталі проста сімвалічнымі, а ў 2007 годзе гэты ўказ наогул спыніў сваё дзеянне.

Зараз пра кампенсацыю банкаўскіх укладаў савецкіх часоў беларускія ўлады наогул не ўзгадваюць. Ды і пра што ўзгадваць, калі зараз у бюджэце нестае грошай на самыя неабходныя сацыяльныя праграмы, а беларускае кіраўніцтва шукае па свету, хто б яшчэ мог даць грошы ў крэдыт, каб краіна неяк магла існаваць далей.

Да таго ж і вастрыня праблемы кампенсацыі банкаўскіх укладаў савецкіх часоў паступова сыходзіць, былыя ўкладчыкі пакрысе паміраюць, а тыя, што яшчэ засталіся, знаходзяцца ў сталым узросце, і ім, з-за праблем са здароўем, не да зваротаў у дзяржаўныя органы.

Пыхтуючы артыкул, давялося перагледзець процьму разнастайных матэрыялаў, прысвечаных кампенсацыі банкаўскіх укладаў савецкіх часоў. На жаль, нічым не магу парадаваць паважаную чытачку "Рэгіёна" і іншых укладчыкаў, хутчэй за ўсё, ніякай кампенсацыі банкаўскіх укладаў савецкіх часоў у нашай краіне не будзе. Вось што на гэты конт паведамляе афіцыйны інтэрнэт-сайт Нацбанка Рэспублікі Беларусь:

"Необходимо отметить, что компенсационные выплаты по вкладам осуществляются за счет средств государственного бюджета. В настоящее время в бюджете страны отсутствуют необходимые для данных целей средства. В этой связи законодательные акты о компенсации вкладов в последнее время не принимались".

Ну а раней і кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка, і былы старшыня Нацбанка Надзея Ермакова заяўлялі, што у бліжэйшы час выплаты кампенсацый па банкаўскіх укладах савецкіх часоў чакаць не варта. Для гэтага з бюджэту краіны неабходна вылучыць вельмі вялікія грошы. А такой магчымасці ў дзяржавы няма.

Таму, паважаныя чытачы, на нейкую кампенсацыю гэтых укладаў можаце не разлічваць. Марыць пра тое, што ў Беларусі ў хуткім часе з'явяцца вольныя грошы, можа толькі закаранелы аптыміст. Дзякуючы мудраму кіраванню нашай правячай "эліты", у нас ужо зараз нестае грошай на выплату пенсій пенсіянерам і на поўнавартаснае фінансаванне сацыяльнай сферы. Бліжэйшым часам, на жаль, сітуацыя будзе толькі пагаршацца, пра гэта аднагалосна кажуць усе незалежныя эканамісты.

Чаму ў Беларусі не кампенсавалі банкаўскія ўклады савецкіх часоў раней, у сярэдзіне 2000-х, калі неабходныя грошы ў краіне былі, - пытанне рытарычнае. Менавіта ўсе мы абіралі ўладу, якая і павінна была прымаць адпаведныя рашэнні. Так што, што выбралі, тое і атрымалі.




Напрыканцы артыкула адзначу, што кампенсацыю банкаўскіх укладаў савецкіх часоў з краін, якія раней уваходзілі ў склад былога Савецкага Саюза, правялі ў розных памерах Расія, Украіна, Казахстан, Літва, Азербайджан, Малдова, Арменія.

Таксама не забывайце, шаноўныя чытачы, што і зараз у выпадку нейкага "форс-мажора" банкаўская сістэма Рэспублікі Беларусь наўрад ці зможа кампенсаваць вам магчымыя страты па банкаўскіх укладах. Аднак усе мы дарослыя людзі і самі павінны прымаць рашэнне, дзе і як захоўваць уласныя грошы.

***Іван Барысаў***

## Продолжаем вымирать

По информации районного отдела ЗАГС за одиннадцать месяцев 2015 года в Белыничском районе родились 216 малышей, в январе-ноябре 2014 года – 218 детей.

Узами брака связала себя 141 пара, за аналогичный период прошлого года – 180.

В январе-ноябре текущего года умерли 370 жителей района, за восемь месяцев 2014 года – 382.

# У БЯЛЫНІЧАХ ЗМАГАЮЦЦА ЗА ДРУЦЬ

**Грамадскія актывісты з Бялыніч пачалі збор подпісаў жыхароў Бялыніцкага раёна пад калектыўным зваротам у Круглянскі райвыканкам. Падставай для звароту паслужыла пастаяннае ігнараванне патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства пры эксплуатацыі гідраэлектрастанцыі, якая знаходзіцца ў аграгарадку Цяцерын Круглянскага раёна.**



Бялынічане скардзяцца на тое, што, у выніку непрадуманых дзеянняў пры эксплуатацыі Цяцерынскай ГЭС, перапад узроўню вады ў рацэ Друць на працягу дня часцяком складае больш за адзін метр. У выніку гэтага гіне расліннасць і іхтэафаўна, рака на тэрыторыі Бялыніцкага раёна паступова ператвараецца ў балота. Рацэ Друць наносіцца велізарныя экалагічныя страты, якія цяжка падлічыць. Грамадскія актывісты здзіўлены тым, што адпаведныя прыродаахоўныя органы і арганізацыі Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў чамусьці не звяртаюць на гэта ўвагі, хоць кантроль за станам навакольнага асяроддзя і выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства – іх непасрэдны абавязак.

Ніякіх мер па выпраўленню існуючай сітуацыі не прымаюць і органы выканаўчай улады Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў, хоць неабыякавыя грамадзяне неаднаразова ўздымалі перад імі пытанне аб захаванні флоры і фаўны ракі Друць.

Грамадзяне просяць старшыню Круглянскага райвыканкама паведаміць ім, якія меры прымаюцца Круглянскім РВК для забеспячэння выканання прыродаахоўнага заканадаўства і захавання флоры і фаўны ракі Друць.

Ініцыятар напісання звароту, бялыніцкі грамадскі актывіст Пётр Шымбалёў кажа, што праблема выканання экалагічнага заканадаўства і захавання належнага стану ракі Друць сапраўды хвалюе многіх бялынічан. Збор подпісаў толькі распачаўся, а пад зваротам у Круглянскі райвыканкам ужо падпісалася даволі шмат людзей.

Па словах Пятра Шымбалёва, яму вельмі дзіўна, што на існуючую сітуацыю ніякім чынам не рэагуюць прыродаахоўныя органы. Актывіст адзначае, што ён узнімаў праблему з экалагічнай сітуацыяй на рацэ Друць у Бялыніцкім раёне і ў 2014 годзе, калі спрабаваў вылучыцца кандыдатам у дэпутаты раённага Савета, і ў 2015 годзе, калі Цяцерынскае водасховішча наведвала кандыдат у прэзідэнты РБ Таццяна Караткевіч. Аднак мясцовыя ўлады адаюць перавагу таму, каб яе проста "незаўважаць".

Гэта тым больш дзіўна, бо Бялыніцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету, у зону дзеяння якой уваходзіць і Круглянскі раён, узначальвае Віталь Бізуноў. Віталь Васільевіч узначаліў прыродаахоўную інспекцыю толькі пасля выхаду на пенсію. Да гэтага ён не адзін год адпрацаваў у праваахоўных органах, у тым ліку і на пасадах начальніка РАУС Шклоўскага і Бялыніцкага раёнаў. Здаецца, каму, як не ветэрану праваахоўных органаў, патрэбна найбольш клапаціцца пра выкананне беларускага заканадаўства, аднак чамусьці заслужданага пенсіянера Віталя Бізунова праблемы экалагічнага стану ракі Друць не вельмі хвалююць.

*Барыс Вырвіч*

# У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ "ЗВЫШБАГАТАЯ" РАЁНКА ДАПАМАГАЕ ГРАШЫМА СЕЛЬГАСПРАДПРЫЕМСТВАМ

**Крычаўская раённая газета "Крычаўскае жыццё" накіравала з уласнага бюджэту больш за 350 мільёнаў рублёў на дапамогу сельгаспрадпрыемствам і школе.**

Пра выпадак нечуванай шчодрасці з боку крычаўскай раёнкі паведаміла абласная газета "Магілёўскія ведамасці".

У прыватнасці, за апошнія два месяцы "Крычаўскае жыццё" дапамагла набыць паліўна-змазачныя матэрыялы тром сельскагаспадарчым прадпрыемствам: СВК "Бель", КСУП "Добрасць" і ААТ "Крычаўаграпрамтэхзабеспячэнне". Ну а раней, у верасні, раёнка вылучыла сродкі на набыццё канцэлярскіх тавараў для мясцовай школы №5.

Як пішуць "Магілёўскія ведамасці", "па словах галоўнага рэдактара "Крычаўскага жыцця" Таццяны Іўкінай, дабрачыннасцю займацца карысна, асабліва калі можаш гэта сабе дазволіць. І калектыў у накладзе не застаецца, і добрая падтрымка для прадпрыемстваў і арганізацый раёна".

Між тым самі жыхары Крычаўскага раёна вельмі здзіўлены шчэдрасцю і багаццем мясцовай раёнкі. Па іх словах, у раёне пастаянна маюць месца факты прымусовай падпіскі на "Крычаўскае жыццё" і, даводзячы заданні па падпісцы, чыноўнікі якраз спасылаюцца на тое, што падвышэнне накладу дазволіць раёнцы больш-менш прыстойна выжываць. Газета таксама штогод атрымлівае дапамагу з раённага бюджэту, а тут высвятлілася, што "Крычаўскае жыццё" не ведае, куды падзець уласныя грошы.

Журналісты незалежнай крычаўскай газеты "Вольны горад" выказалі меркаванне, што, з дапамогай "Крычаўскага жыцця", проста былі выкарыстаны

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## В ШКЛОВСКОМ РАЙОНЕ ЛЮБЯТ МЯСО

24 ноября Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении жителя д. Староселье Шкловского района,1987 г.р., рабочего ОАО «Александрийское», не судимого, который 18 ноября около 12-00 вблизи указанной деревни из цеха данного предприятия, путем свободного доступа, похитил 218 кг мяса свинины и 5,9 кг колбасы на сумму 17 938 100 руб. Раскрыто ГБЭП. Задержан в порядке ст. 108 УПК. Похищенное изъято, сообщает uvd.mogilev.by.

## У Магілёўскай вобласці "звышбагатая" раёнка дапамагае грашыма сельгаспрадпрыемствам

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

"шэрыя" схемы па пераводу бюджэтных грошай для падтрымкі занядбалых сельгаспрадпрыемстваў раёна. Большасць гаспадарак у Крычаўскім раёне знаходзіцца ў жахлівым стане, яны не маюць грошай для закупкі паліва і выплаты заробкаў сваім працаўнікам.

Дзіўна, што на такую шчодрасць з боку "Крычаўскага жыцця", якая фінансуецца, у тым ліку, і за кошт дзяржаўнага бюджэту, чамусьці не звярнулі ўвагу адпаведныя кантралюючыя органы. Гэта тым больш дзіўна, бо менавіта ў Крычаве знаходзяцца міжрайаддзелы КДК і КДБ.

Магчыма, вопыт крычаўскай раёнкі патрэбна пераняць і раённым газетам нашага рэгіёна, бо ў нас таксама многія сельгаспрадпрыемствы дыхаюць на ладан. Так што ўносім прапанову – далучыць да кожнай раёнкі па калгасу. Тады якая эканомія сродкаў будзе – журналістка падоіць карову, і адразу ж напіша пра свае поспехі і дасягненні.

Ну а калі сур'ёзна, то складваецца ўражанне, што ў нашых чыноўнікаў маразм не мае межаў…

***Барыс Вырвіч***

## ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ У БЕЛАРУСІ ХОЧУЦЬ ПАВЫСІЦЬ ДА 65 ГАДОЎ

**Закон аб павышэнні пенсійнага ўзросту ўжо гатовы, заявіў кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў.**

Пра гэта экспэрт заявіў падчас дыскусіі ў Беларускім доме ў Варшаве, паведамляе «Радыё Рацыя».

- Апошнім часам гавораць аб нейкіх рэформах. Тым не менш, Лукашэнка ў час сваёй чарговай т.зв. «інаўгурацыі» казаў, што ніякіх рэформаў з яго выбіваць не будуць. На вашу думку, якія ёсць цяпер сцэнары для Беларусі?

- Сцэнар вельмі просты - будуць грошы ў бюджэце, ці не. Калі бюджэт будзе мець праблемы з напаўняльнасцю, то перш за ўсё паржэжуць тое, што не ёсць крытычна важным для рэжыму. Гэта сацыяльная сфера. Таму, на жаль, я не выключаю, што вось гэты праект «сацыяльная дзяржава» будзе вельмі хутка згорнуты. Прынамсі, наколькі мне вядома, распрацаваны ўвесь корпус заканадаўчых дакументаў аб павышэнні пенсіённага ўзросту да 65 гадоў, для ўсіх. Пры тым, што ў нас сярэдняя працягласць жыцця - блізу 70.

- Якія яшчэ змены, якія могуць адбіцца на жыцці звычайнага беларуса, магчымыя ў найбліжэйшыя гады?

- Думаю, што гэта, безумоўна, жыллёва-камунальная сфера, таму што гэта масавая сфера, якая паглынае шмат грошай. Гэта сфера вышэйшай адукацыі, гэта значыць, памяншэнне бюджэтных месцаў, і пашырэнне платных. Ну і, безумоўна, гэта медыцына, якая дэ-факта ўсё больш і больш становіцца платнай.

Нагадаем, жанчыны ў Беларусі выходзяць на пенсію ў 55, мужчыны - у 60. Сярэдняя працягласць жыцця мужчын у краіне толькі крыху перавышае 66 гадоў, так што іх большая частка пры ўсляванні новага пенсійнага ўзросту да пенсіі проста не дажывуць. Цяпер у краіне больш за 2,5 мільёна пенсіянераў (27% ад насельніцтва), пры гэтым 644 000 з іх працягваюць працаваць. Сума сярэдняй пенсіі па ўзросту ў верасні склала крыху больш за 2,9 мільёна рублёў.

## З НОВАГА ГОДА РЭШТКІ ТАВАРУ ІП НЕ ЗМОГУЦЬ НІ ПРАДАЦЬ, НІ ПАДАРЫЦЬ

Калі індывідуальныя прадпрымальнікі працягваюць прадаваць рэшткі тавараў без дакументаў, ім пагражае штраф ад 20 да 200 базавых велічынь.

Намеснік начальніка ўпраўлення падаткаабкладання індывідуальных прадпрымальнікаў МПЗ Наталля Падгорная адзначыла, што па ўказу №222 з 1 студзень 2016 года забаронены гандаль, і іншае адчужэнне (нават на бязвыплатнай аснове) рэштамкі тавараў, паведамляе БелТА.

За парушэнне забароны паводле ч.2 арт.12.7 КаАП прадпрымальнікам пагражае штраф ад 20 да 200 базавых велічынь (на сёння 36 млн. рублёў) і канфіскацыя даходу ад продажу.




Таксама могуць канфіскаваць прылады і сродкі ўчынення правапарушэння.

## КАМЕНТАРЫЙ “РЭГІЁНА”

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

што ідэю аб ліквідацыі Круглянскага раёна, як і яшчэ чатырох іншых раёнаў Магілёўскай вобласці, неаднаразова агучвалі не злосныя буржуінскія найміты, а самыя што ні на ёсць “чэсныя” дзяржаўныя беларускія чыноўнікі, у тым ліку тагачасны міністар эканомікі Рэспублікі Беларуь, а зараз намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Мікалай Снапкоў. Дарэчы, Мікалай Генадзьевіч шмат гадоў адпрацаваў у Магілёўскай вобласці, у тым ліку намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама, таму добра ведае рэальны стан спраў у рэгіёне.

Што ж датычыцца “дынамічна развіваючайся Кругляншчыны”, то за апошнія гады тут перасталі працаваць льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізаваны шэраг калгасаў і саўгасаў. У адзіным стабільна працуючым прадпрыемстве Круглянскага раёна, Круглянскай ПМК-266, зараз мноства праблем з-за адсутнасці патрэбнай колькасці замоў на будаўніцтва і несвоечасовай аплаты за ўжо выкананыя работы. І самі працаўнікі гэтага прадпрыемства ў адзін голас кажуць пра тое, што заробкі ў іх знізіліся, зараз многіх людзей звальняюць і адпраўляюць у вымушаныя адпачынкі. Таму не трэба блытаць стан спраў у тых, хто атрымлівае заробкі за кошт дзяржаўнага бюджэта, з жыццём працаўнікоў рэальнага сектара эканомікі.

Самі мудрыя круглянскія чыноўнікі налічылі ў мінулым годзе ў раёне спачатку аж 1859 так званых дармаедаў (людзей працаздольнага ўзросту, якія афіцыйна нідзе не працуюць). Праўда, пазней красавіку 2015 года гэта лічба чамусьці зменшылася ў іх да “парадку 1,3 тысячы” чалавек.




Хлопцы, дык пра якое “развіццё” Круглянскага раёна можна казаць, калі з агульнай колькасці яго насельніцтва ў 14 200 чалавек, з якіх толькі каля 6000 тысяч занята ў эканоміцы раёна, 1,3 тысячы з’яўляецца “дармаедамі”? Людзям у раёне проста няма куды ўладкавацца на працу. А на бюджэт усіх не пасадзіш, усе “рыбныя” месцы там ужо занятыя. Складваецца ўражанне, што некаторых пенсіянераў з кіруючай круглянскай “вертыкалі” панясуць на могілкі ўперад нагамі прама з займаемых імі зараз кабінетаў…

Калі жыхары Кругляншчыны, як і В. Кубека, нязгодныя з тым фактам, што большасцю кіраўнікоў Круглянскага раёна ён разглядаецца, як трамплін для падвышэння, крыху нагадаю ім некаторыя рэчы. З кіраўніцтва раёна, пачынаючы з таварыша Папкова, за апошнія гады адправіліся ў “шлях па вертыкалі” В. Іваноў, Д. Гобараў, А. Бутараў, Аляксандр Дуцько. Па неафіцыйнай інфармацыі, зараз разглядаецца пытанне пра тое, каб прызначыць цяперашняга старшыню Круглянскага райвыканкама Анатоля Шчуплянкова старшынёй райвыканкама у шмат больш вялікі і развіты Асіповіцкі раён. Ну і дзе тут журналісты “Белсата” сказалі няпраўду?

Дарэчы, хачу таксама нагадаць чытачам “Рэгіёна”, што чальцы ініцыятыўнай групы, якія распрацоўваюць стратэгію развіцця Круглянскага раёна, якраз і выступаюць за яго захаванне пасля правядзення неабходных рэформаў.

На жаль, асабіста я прытрымліваюся зусім іншай думкі – скарачаць лішнія кіруючыя і праваахоўныя структуры неабходна, у тым ліку і за кошт аптымізацыі колькасці раёнаў Магілёўскай вобласці. У іншым выпадку, паважаныя чытачы, будзе скарачацца не колькасць чыноўнікаў, якія “сядзяць на бюджэце”, а вашы заробкі, пенсіі, расходы на медыцыну, адукацыю і сацыяльныя патрэбы…

***Іван Барысаў***

## НАЧНИ С СЕБЯ

Сгорел в деревне новый дом,
Осталась вся семья без «крыши»…
Сбежались, ахали. Потом
Смеялся долго дядя Миша.

Жена соседа умерла.
Старик пьёт с горя беспробудно.
Соседка счастлива была,
Хотя и плакала прилюдно.

Попал в аварию сосед
И поломал спину и ноги.
И иномарки тоже нет.
Но радость он принёс для многих.

Вот у того сын страшно пьёт…
У тех же дочь в занятье древнем…
И потешается народ,
И счастье есть для всей деревни.

Правитель наш безбожно врёт,
Боится всяких перестроек.
Такой правитель, как народ!
Друг друга каждый здесь достоин.

Есть у страны своя судьба,
Хоть состоит из разных судеб.
Ждёшь перемен? Начни с себя!
И пожелай добра лишь людям.

Не надо лгать! Не надо красть!
Пускай других никто не судит!
И сразу чище станет власть,
Ведь и у власти - тоже люди!

***Зинаида Милещенко***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 03.12.2015 г. у 19 -00.